УДК 821.161.3-1
ББК 64(4 Беи)
Б 90

Бялячыц, Р.

Б 90 **У імя...** Вершы, паэма / Рычард Бялячыц. – Гродна : ТАА «ЮрСа Прынт», 2018. – 182 с.

ISBN 978-985-28-8-10.

З кніжкі ў кніжку – а іх паўтара дзясятка ў Рычарда Бялячыца – пераходзіць гістарычная тэма. Так у вершах, так і ў паэмах "Бераг цішыні", "Шлях да сябе", "Вяртанне пчалы", "У святле палаца". Вечная тэма кахання ў новым зборніку таксама займае значнае месца. Асобна выдзелены вершы-прысвячэнні калегам па Шчучынскім палацы творчасці, бо ўсе гэтыя людзі самабытныя і таленавітыя кожны па-свойму.

Чытач абавязкова знойдзе ў зборніку вершы на свой густ і светаўспрыманне, лірыка паэта напоўнена душэўнасцю і філасафічнасцю жыццёвых сітуацый.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4 Беи)**

**ISBN 978-985-28-8-10**

# У імя…

У імя жыву —
І не іначай —
Я цябе
І праведнага Бога.
І хачу штодзённа ясна бачыць
Зоркі добрыя
З радзімага парога.
Чуць крынічны
І магічны голас,
Падпяваць з паўслова
І адразу.
Браць прамень з нябёс
Рукою голай,
У імя тваё
Стаўляць у вазу.

Непазбежна здарыцца аднойчы,
Каб набрацца свежай весняй сілы,
У імя Радзімы —
Вочы ў вочы —
Проста памаўчаць на небасхіле.

## Жаданне

І непатрэбныя нікому
Жывая спеласць мурага,
Дарога доўгая дадому
І жураўліная туга.

З часоў, як маці раму мыла,
Да дзён апошніх
Сочыць боль.
Людскіх не меншае памылак,
Людзей разумных больш і больш.

Але з вачэй сыходзіць замяць,
Пабачыць каб аднойчы зноў,
Як разумеюць,
Як чакаюць
Зямля і сонца нашых слоў.

І сэрцу хочацца наранні
Хаця б па кроплі,
Хоць бы зрэдзь
Падчас сустрэчаў і расстанняў
Глядзець у вочы
І дабрэць.

# Палац

На адлегласці працягнутай рукі
Быў і я шчаслівым самым-самым.
Спаць зляталіся на гнёзды жаўрукі,
Воблакі паселі над Версалем.

А як дойліды сышліся, цесляры
Класці дзень да дня
Цаглінай смела,
Кажуць, тут,
На беразе Тур'і,
Бусляня версальскае асела.

Тут пад аркай часу хваляваўся я,
І ва ўсім таілася абнова.
Тут назаўтра распаўнелая Тур'я
Сонца нарадзіць
Была гатова.

Да працягнутай рукі тваёй амаль
Прыплывала з чарадою гуска.
Ах, Версаль,
Мой шчучынскі Версаль,
Між палёў
І słоваў беларускіх!

# Зорка

Зноў стане мне сумна і горка,
Як ведаць не буду таго,
Куды пакацілася зорка
Паціху-паціху ад створкі
Акна векавога майго.

Яе беласнежнае пёрка —
Сафійкай на мудрай Дзвіне.
Раскажаш ты мне за пагоркам,
Куды пакацілася зорка,
Каб ведаць дарогу
І мне.

# Ля Нёмна

Ля Нёмна парадак такі —
Не стэпы, не тундра, не горы.
А ў горадзе — тры гарадкі,
Фантанны, паўднёвы і зорны.

Тут добры вандруе ўспамін,
А праз дарогу — балючы.
Даў Бог пасля летаў і зім
Імя прэснаводнае —
Шчучын.

І вежа спрадвеку, здаўна,
Усім па стагоддзю адлічыць.
Мне думаць ізноў дапазна
Пра мілае сэрцу аблічча.

І па набярэжнай ізноў,
Дзе лебедзі спусцяцца верна,
У госці пайду да князёў,
Пад аркай Марыю сустрэну.

Дзяўчынка прывеціць штораз
Блакітнымі ў сонцы вачыма.
І тут жа нахмураны князь
Бакалы нальe
За Айчыну.

## Просьба

Ходзіце па горадзе прыгожа,
І на нейкім светлым рубяжы
Бог які, нарэшце, дапаможа
Вас перачакаць
І пераЖыць.

Хоць хвіліну велічна пастойце:
Вашы і імя, і задыяк
На маім маўклівым гарызонце
Штосьці не чытаюцца ніяк.

Хто б шляхі-дарогі рассакрэціў,
Голаў затрымаўшы на плячы.
Бог адзін,
І як яму на свеце
Кожнаму
Штодзень
Дапамагчы.

# Галавічполе

Як у прыполе,
Дзве гары
Вякамі ўчэпіста даволі
Трымалі поле, дол стары
Непадалёк Галавічполя.

Ці чулі, ці згадалі вы:
Услалі поле даўнім маем
Тут галава да галавы
Браты далёкія Мамая.

Скакала конніца.
Страла
Праз край шалёная ляцела.
Пагоня княжая жыла,
Пакуль жылі душа і цела.

Не распазнаць ні ў чым бяду
Лагодны дзень ці студзень люты.
А гэта поле перайду,
Нібы праз даўнія пакуты.

Ні павяла дарога дзе б,
Як трэба нам
І як хацела,
А з поля гэтага — наш хлеб
І чорны,
Нібы ноч,
І белы.

# *Думае травень…*

Вёсен нямала,
Пасеўшы радком,
Шчыра адводзяць бяду маю:
Думае вершы Алесь Пісьмянкоў,
Птушка гняздо сваё
Думае.

Толькі не трэба пярынкі чужой
І маскарада-відовішча.
Край зачынаўся
Сыноўняй душой
З думкі сівой Ермаловіча.

Думаць не думаў
Мой продак і ваш,
Каб назаўсёды праславіцца.
Думае травень
Найлепшы пейзаж
Дзеля айчыннае раніцы.

# Цётчына радзіма

Пешчына,
Пясчына,
Песчына...
Крыж
І гаманлівае калоссе.
Ні фальваркa на зямлі няма,
Ні спытаць каго не засталося.

Дзе паставіў націск гром здаўна,
Як сыходзіў перуном нямала.
Пешчына,
Пясчына,
Песчына...
Як умела,
Кветку ўзгадавала.

Станем ля нябеснага акна,
Смак паветра памятаюць грудзі.
Пешчына,
Пясчына,
Песчына...
Слова ёсць,
І мы са словам будзем.

***

*Анатолю Сысу*

Нібы пан-лес,
Любіў ён волю.
Пярун яго ў дарогу выслаў.
Трыбуна Сысу Анатолю
Была чужой
І ненавіснай.

У гэтым краі правяць воды
Ад слова роднага да слова.
Ён прызнаваў алтар Гасподні
І перад ім маўчаць гатовы.

## Прысвячэнне

Шмат фантастычных і дзіўных акон
Спіць,
Як нямыя гратэскі.
З Голубам можна не думаць,
Што ён
Слаўны паэт гарадзенскі.

Будзе ў вачах шмат узвышаных дзён,
Стануць янтарнымі смолы.
Помніцца толькі заўсёды, што ён
На беларусчыне —
Голуб.

Не патрыёт на прыступках,
Але
З праўды, любові і болю.
Чым ад Каложы і Зэльвы далей,
Успамінаецца болей.

# Помнік
# Давыду Гарадзенскаму

З бацькоўскае даўняе згоды
Праз родны Нальшанскі блакіт
Трынаццатым скача стагоддзем,
Да Нёмна імчыць князь Давыд.

Усходзяць ля Пскова пралескі,
Князь юны ў дарозе адзін.
Пакуль што ён не гарадзенскі,
Ён сэрцам і думкай ліцвін.

Узыдзе зара ціхім жалем
Над ім у трывозе не раз.
Любіць
На фарпосце дзяржавы
Навечна
Навучыцца князь.

Мінуўшы гадоў пералескі,
З узнятай да зор галавой
У горад Давыд Гарадзенскі
Ўваходзіць над Нёманам
Свой.

# Імя

З Каложскіх нябёсаў
Ступаю да Нёмна.
Я верны, адданы для іх сувязны.
Сустрэча раптоўная,
Памяццю поўная.
І гром ушануе
Каложы званы.

Тут паспавядайся прад Богам
І гены зруш.
Спадарства, маўчыце
Пра час убаку.
Сягоння імша
Па жывучае Геніюш.
На міг супыніла нізіна раку.

А хутка прад снегам
Узыдуць азімыя.
Іх будзе туліць маладая зіма.
Ёсць праўда,
Якая завецца Радзімаю —
Высокае,
Светлае,
Наша імя.

# *Дом у Навагрудку*

*Мастаку Кастусю Качану*

Гісторыі пласт утравеў.
А светла, нязмушана помніцца,
Што ў доме ягоным жыве
Навагрудак сам
І ваколіца.

Жывуць і прастора, і час.
А стане — душа апарожніцца,
Сустрэне спадарыняй нас
Заўжды
Мастака спадарожніца.

Направа зірнеш —
І гатоў
Застацца на ўзгорыстай вуліцы.
Там мускулы дужых вякоў
Да мужнага тулава туляцца.

Не мроя, не снежны сувой
Пад воблакам
Зімамі доўгімі,
А тут, акурат прад табой,
Вякуюць скляпенні Міндоўгавы.

Тут побач маўчыць
Ён і сам.
Бо чуе, як велічна гоніцца,
Жыццё несучы ветракам,
Яго неўміручая конніца.

Застыла страла навылёт.
І фарбы — жывымі палоскамі.
Паветра, планіда, усход
Вялікага Княства Літоўскага.

Не стане гісторыя дзе
Вяршыць,
Бездакорная, чулая,
Папросіцца заўтрашні дзень
Прысесці на міг
Ля мінулага.

Аблокаў змяняецца масць,
Цукерка Мядзведзіцы мроіцца.
Тут згінуць напэўна не дасць
Душа
Ні сусвету,
Ні кропельцы.

***

Паэт не першы і не лепшы,
Ты не хвалюйся і астынь.
Каму твае патрэбны вершы —
Нямыя вобразы святынь.

У словах —
Думкаў, душаў повязь,
Але надходзіць дзікі час:
Каму твая патрэбна споведзь,
Апроч цябе
І, можа, нас.

Тады ў чаканні будзе праўда,
У згадцы добрае штодня.
І хоць яны — нібыта радасць,
А верш бяздомны,
Як шчаня.

# *Васілішкаўскі гасцінец*

З Песчыны,
З маўклівай ціны
Вёў пры даўняе нагодзе
Васілішкаўскі гасцінец
У наступнае стагоддзе.

І каціласе памежжам
Рызыкоўна і на ўцеху
З Гедымінавае вежы
Беларускіх словаў рэха.

Стала потым светлым ранкам,
Роднай, добрай пагалоскай
Беларуская чытанка
Вачанятам старадворскім.

А калі святло схавалі
Ночы,
Што, як здань, навіслі,
Павялі Дняпровы хвалі,
Калыхала думкі Вісла.

Стаў мароз.
Мяло залішне.
Вёў гасцінец,
Як па лёдзе,
Паўз касцёла ў Васілішках
У наступнае стагоддзе.

# *Ліпічанская пушча*

*Валянціну Дубатоўку*

Над Ліпічанскай пушчай мне
Збіралі ў памяць
Праўду гусі.
Ты быццам быў на той вайне
І незаўважна стуль вярнуўся.

Сцяжыны ведаеш праз лес,
Што да людзей вядуць напроста.
І сам нібыта там увесь
З развагі,
Выстралаў
І помсты.

Гарэлі хаты.
Уначы
Крычалі немаўляты ў клеці.
А ты не змог дапамагчы,
Бо не было цябе на свеце.

Дубы спыніліся падрад
Скалечанымі ды жывымі.
А ты як быццам бы не рад,
Што не было цябе між імі.

Па белым
Чорным напішы
Праменнем, росамі з-пад ранку,
Як нараджаліся ў цішы
Святыя гукі Ліпічанкі.

# Навальніца

Над горадам, нарэшце, навальніца
З-за добрага анёльскага пляча
Званіцы цалавала
І напіцца
Сябе давала
Думкам
І вачам.

У возера ўрастала каласамі,
Ля ног вясёлкай клалася якраз.
І мы цяпер здагадваліся самі,
Як мала ўсё залежала ад нас.

Пад стрэхамі вячэрацць птушаняты
Прасіліся адзін у аднаго.
Нічым быў мокры горад не заняты,
Дыханне толькі
Чулася яго.

# З тайны

Лесавік даўно памёр,
Вадзянік — таксама.
Напужаў цябе бабёр
Натуральны самы.

Пра любоў кажы і высь,
Мроі і спатканні,
Бо ў прыродзе ўсё калісь
Зачалося з тайны.

# Прызначэнне

Яшчэ з усходам кожным
Згода
І не дапісаны твой верш.
Пакуль жывеш,
Які ты продак.
Які ты продак,
Як жывеш.

У час саманадзейны самы,
Дзе красавік і сонца дзе,
Неабыякавая дама
Неабыякава ідзе.

Яшчэ з табой твая Радзіма
І не нацешышся ёй ты.
Глядзіш у вочы ёй праўдзіва,
Ліст на далоні залаты.

Лыжню пракладваеш упарта,
Абы мяло,
Мароз абы.
Які ты продак,
Як назаўтра
Табе прызначана
Любіць.

# Гарадзенская скрыпка

Паломніцкі дом у Гародні...
На кволым дзявочым плячы
З якое святое нагоды
Малілася скрыпка аб чым?

На беразе Гараднічанкі
Заплакала скрыпка аб кім?
Па Нёмане ведалі чайкі
Дарогу да мора
З-пад зім.

Глядзела на свет Элаіза
Ў акно залатою парой.
Сыходзіў па сходках паблізу
Апошні вялікі кароль.

А Муза на божым паверсе
Не ведала стомы вякі.
Кружылі анёламі ўверсе
Знаёмыя сэрцу радкі.

Там скрыпка званы маладзіла
І ясніла ўсім далячынь.
Не ведала стомы
Ў Радзімы
На юным чуллівым плячы.

## *Сны Радзімы*

Да гімна цэлая гадзіна.
Смакуем сну празрысты мёд.
І ты, чароўная радзіма,
І я, шчаслівы вершаплёт.

Так сняць сваё начамі кроны
Зялёна-пышныя ва ўсім.
Сон раніц велічна-чырвоны
Заместа чорна-белых зім.

У каласоў сон пахне хлебам,
Багемай слоў — у салаўя,
У васількоў — высокім небам.
А мой чым пах —
Забыўся я.

І толькі светлая дарога
Цябе вяла туды яшчэ,
Дзе я пра шчасце сніў так многа
На беразе тваіх начэй.

Яшчэ змаўчу імгненне, можа,
Бо падалося зноў ці не:
Мая Радзіма сніць прыгожа
Мяне на белым скакуне.

А ні хмурынкі злой навокал,
Вянком пахучым — сенажаць.
Таемна прырасплюшчу вока,
Каб сон з другога не прагнаць.

# Яго зямля

*Прафесару А.У. Рагулю*

Я ўпершыню кажу: "Люблю".
Зямля вярэдзіла і клікала.
О, як Вы ўзносілі зямлю
Сваю,
І Мележа,
І Быкава!

Ад раніцы і дапазна
Шляхамі сходжанымі,
Свежымі
Вадзіла, боская, яна
Прыдзвіннем родным,
Белавежаю.

Не адпускала ні на міг
Душу шляхецкую,
Сялянскую.
Дзяліла долю на дваіх
Сахою,
Лустаю
І ласкаю.

Хапаў на ўзлёце дужы птах
Паветра веснае напоўніцу.
Жытоў, расінак, ветру пах,
Нібы дыханне Ваша,
Помніцца.

Хвіліна...
Вас ужо няма
Ў застылай шумнай аўдыторыі.
Ляцелі ў поле нездарма
За Вамі следам некаторыя.

Калі снягі, калі вясна,
Душою, словамі і голасам
За тое, што свая яна,
Вы так пару любілі
Коласа.

Пражыць — не поле перайсці
Па векапомнае ваколіцы.
Яшчэ ў дарозе,
Пры жыцці,
Так неўміручымі становяцца.

# Натхненне

Ты прыпомніш адлігу, вясну,
Лебядзіны прыбой ля палаца.
Як хацелі адзін аднаму
Мы з табою тады спадабацца.

Берагі ў шаўкавістай траве,
Наваколле сабралася ў госці.
Паднябеснае штосьць на табе,
А на мне недарэчнае штосьці.

Свежы холад на верным плячы,
А ў вачах —
Словаў водсветак бліскаў.
Мы, як лебедзі, светла маўчым.
Як яны,
І далёка,
І блізка.

* * *

На скрыжаванні ўсіх дарог,
Ціхмяных, велічных і гучных,
Не запыніцца ён не мог
Па-над Тур'ёю, юны Шчучын.

Па тым, што ёсць,
Было даўно,
Вучу гісторыю самую.
Я з ім вякамі заадно
І весялюся,
І сумую.

Тут запаветныя шляхі
На ўсход,
На захад
І на поўдзень.
І тут у сонца берагі,
Прысядзе дзе
Ды ў людзі пойдзе.

***

Дзень у чаканні каторы.
Вербы хвалююцца лішку.
Зараз Вінярскі падорыць
Мне маю свежую кніжку.

Покуль прывыкну патроху,
Покуль яе разгадаю,
Ліда заступіць дарогу,
Вязынка паспавядае.

Нібы не ведаўся з Мінскам
І не спяшаў, як дадому.
Як жа цяпер ён няблізка,
Стрыманы па-маладому.

Да маладосці прайдуся
Праз перавулак кароткі.
Я ажно з той Беларусі,
Дзе Урублеўскі і Цётка.

Стуль, дзе пад поўдзень вясковы,
Зведаўшы церпкія далі,
На каляровыя словы
Сядзе пчала маладая.

# Уначы

Усё змяшалася да кучы —
Сузор'і, месяц, ліхтары...
Хоць майскай свежасцю пахучы
Букет табе з іх сабяры.

Аднак не зробіш нават кроку
Па цішыні
Насустрач дню.
Адна Тур'я ўсяго патроху
Панесла Нёману свайму.

# Просінь

Восень — не толькі дажджы і залевы,
Горыч расстання,
Прыснежаны боль.
Я тое зведаў са слоў каралевы,
З добрае аўры вачэй
Прад сабой.

Восень — не толькі гарачае лісце,
Просінь у сэрцы над ціхай ракой.
Просінь сягоння
І просінь калісьці
Восенню толькі
Бывае такой.

***

З Віліяй сустрэцца давялося,
Што па свеце за руку вадзіла.
Адзінота буслава
Пад восень
Мне напомніць светлую радзіму.

Снег растане,
Нібы памяць тая,
Дзівяцца, напэўна, дужа людзі:
Буслам адлятаю,
Прылятаю,
А гнязда няма
І больш не будзе.

Каб збудзіць бадзёрага наранку,
Выправіць з надзеяю да школы,
Распачне крыніца калыханку
На мае нярадасныя словы.

# *Вернасць*

*Аляксею Пяткевічу*

Свіцязь абдымала рукі, плечы,
Сонечна краналася павек.
Думаў чалавек за ўсіх аб вечным,
Вечным станавіўся чалавек.

Дуб захваляваўся зорнай кронай,
Нібы два вякі таму назад.
Кладіся радкі
На бераг роўна
Хвалямі
Пад сэрца акурат.

І дзівілі воды,
І вадзілі,
Дна свайго
Таемнага апроч.
Раптам — голас...
І мая Радзіма
Сніць вакал,
Паклаўшы ў ногі ноч.

Росы навагрудскія абсохлі
На траве, на целе маладым.
Доўга Свіцязь верная
Па кроплі
Пад Гародню
Мкнулася
За ім.

# Купель

Дзе яшчэ ўбачыш такое
Па навакольнай прыродзе:
Цела зусім маладое
Светла ў крыніцу ўваходзіць.

Стомленасць даўнюю зліжа,
Змые  трывожныя хвілі.
Тут, пад Навагрудскім крыжам,
Воды крыніцы застылі.

Перажагнайся
І тройчы
Выпрасі міласці Божай.
Стануць відушчымі вочы,
Вырастуць гукі вяльможна.

Проста купеллю завецца
З веку будыніна тая.
А з-пад гары
Яе сэрца,
Як у грудзях,
Не сціхае.

Міма спяшае крыніца
Цераз спякоту, зазімак.
Пэўна, у чыстую Свіцязь,
Дзе і спакой,
І радзіма.

# Гарадскі сум

Пра ўсё, нябеснага апроч,
З нас кожны ад дзяцінства марыў.
І вось
Правакавалі ноч
Прыцемненыя акуляры.

Не ўскружыць голаў далячынь.
Плывём да стомленага вусця.
А на асфальце жывучы,
Мы не адну вясну прапусцім.

Тут пад павекі журавы
Не залятаюць,
І пралесак
Няздольны больш
Дыван жывы
Адратаваць душу ад стрэсу.

Не ўзыдзе папараць у час,
Хоць безліч выпестуйце кветак.
Вы правы будзеце шмат раз,
Але не ў тым,
Не там,
Не гэтак.

Каля дарог усіх без сну
За нас хвалюецца калоссе.
Прапусціш хоць адну вясну —
І паўжыцця
Не засталося.

***

*Іллі Сырыцкаму,*
*юнаму чэмпіёну свету*

Званок нібы будзіць знарок
Ранюсенька многа год запар.
Званок...
Геаграфіі ўрок
Штудзіруе ілюмінатар.

І не зразумееш такой
Свабоды і славы таксама.
Зноў літасці просіць рукой
Сапернік яго на татамі.

А там, на тайландскім рагу,
Быў дзень і салодкі, і горкі.
Здагадвацца толькі магу,
Як хтосьці становіцца зоркай.

Раўнуючы даму сваю,
Зафыркае лебедзь употай.
Ці трапіла проста ў Тур'ю
Дзіцячая кропелька поту?

У рухах, у поглядзе спрыт
Прад музаю класнай, магчыма.
І хочацца плакаць наўздрыд
Ад болю, ад славы
Мужчыну.

## Супадзенне

І небакрай з-за хмараў не відзён,
Без песні і віна
Не есца.
Вясна прыйшла.
А ты, нібыта клён,
Забыты, топчашся на месцы.

Не інелі на вашых вейках дні
Зімою сонечнай марознай.
Ды падказалі сокі з глыбіні —
Шукай, знайдзі сваю бярозу.

Не ведаў назвы кветак ля ракі.
І будзе што,
Не ведаў, далей.
Душы маёй
Абстрактныя радкі
З канкрэтнай музыкай
Супалі.

# Сусветны дождж

Дождж, аднолькава настырны
Стылай восеньскай парой,
Падмывае дрэвы, фірмы,
Неакрэслены настрой.

Мокнуць сцены замка ў Лідзе,
Спіць на печы даўні гром.
І каму ў галовы прыйдзе
Ваяваць такім дажджом.

Твар у кропельках знаёма
Падстаўляеш вуснам ты.
І саромеецца Нёман
Перад Котрай
Паўнаты.

Паслядоўна, манатонна
Неба падае.
І вось
Ад Тур'і да Вашынгтона
Прапускае дах
Наскрозь.

Душы дрэннае прадчулі,
Адклікаюцца радзей.
Не стае, няма бабулі —
Замаліць грахі людзей.

За акном, за небакраем,
Можа, пільна ці наўгад
Кропля кроплю паўтарае,
Каб усё ішло на лад.

# Вернасць палону

У вялікіх прыгожых вачах
Маладога імклівага звера
Сум палону
Яшчэ не зачах.
Што ты выпусціш звера,
Я верыў.

Назаўсёды сплываў шэры лёд.
І чамусьці прыйшло лёгкакрыла,
Што там быў незласлівы янот,
Што ты з ім
І мяне паланіла.

Абаім нам бы волі цяпер,
Але, пэўна, маркоціцца марна.
Не ірваўся да вольніцы звер,
Быў і я заадно салідарны.

Затуманіла раніца сны,
А вясна падвяла назялёна.
У вачах засталіся яны —
Сум палону
І вернасць палону.

# Прысвячэнні



***

*Таісе Бялячыц*

За хмарай тоіцца зіма,
І я не стану болей лепшым,
А ты сцвярджаеш, што няма
Даўно цябе ў гарэзных вершах.

Сама ж ты ведаеш, аднак,
У чым твая любоў і сіла.
Што свет не зведаў бы ніяк,
Каб за сабою не вадзіла.

Радкі прыходзілі.
Дарма
Чужэў самому почырк даўні.
Усё суровела зіма,
Няма мне болей апраўдання.

А ўсё табе адной нясу,
Не сустракаешся калі ты,
Як на апошні самы суд
Свае спадзевы і малітвы.

Усё глядзіць і чуе спрэс
Аж з-пад Сафійкі і да Крэва
Табой прышчэпленае дрэва
На дзікаваты крыху зрэз.

# Адкрыццё

Вось я, здаецца, і дома.
Сходзіцца ўсё
І якраз:
Грэчаскі профіль, вядома,
Балцка-яцвяжскі анфас.

Прозвішча хтосьці смакуе,
Хтосьці імя памяне.
Зведаўшы праўду людскую,
Ты ці пазнаеш мяне?

# Падарунак

Выйдзе заспакоена жанчына
Мне насустрач,
Бы сівому дню.
Лепш за тое споўніць немагчыма,
Што дарыў калісьці ўпершыню.

Зоркаў не дарыў,
Яны чужыя,
І не кідаў свет да ног тваіх.
Мне ты час ад часу варажыла
Па начах суцішаных
І ўслых.

Ружы падабаюцца і пальмы,
Любіш навальніцу і зару.
Пэўна, буду не арыгінальным,
Як сябе самога падару.

***

*Ірыне Дзегцяровай*

Паміж прахожых і калег,
Знаёмы кожнаму і розны,
Ваш неспакойны лёгкі бег
І малады глыбокі роздум.

Вы раскажыце, як жылі,
У чым найболей асалоды.
Плылі якія караблі
Да юнай прыстані заўсёды.

Знікаў з вачэй увосень клін,
Каб зведаць далі і аблокі.
Ці сніўся Вам хоць раз адзін
Палац на беразе высокім?

Па небасхіле почырк Ваш
І ў ціхай, нібы космас, зале.
А Вы не ўмееце інакш,
Аднойчы самі так сказалі.

# Высокае сапрана

*Святлане Аляксеевай*

Сумненні, пошукі і слёзы.
Сплыве над намі журавель.
А потым Вы ў акне марозным,
І той загадкавы "Апрель".

Хоць бы сягоння не зарана:
Падчас узвышаны такі
Гучыць высокае сапрана
Па просьбе чуйнае рукі.

Палёт за казачнаю шыбай
Шчасліва доўжыцца яшчэ.
Я забываю вобраз нібы,
А ён пры тым усё ярчэй.

Не запыніцца, не азваццца.
Жалейкі добры даўні хмель.
У сэрцы водгукі авацый
І ў рыфму просіцца "Апрель".

Яшчэ далёка да палаца.
Тут я і вечар пры акне.
Вам нізашто не здагадацца,
Як на марозе цёпла мне.

Адной душы было вядома,
Бо прадчувалася пакуль,
Што зацвітуць пралескі дома
І ў вышыні
Ў красавіку.

Ва ўсім знаёмыя прыкметы,
Нібыта ў даўні першы раз.
Хоць голас Ваш маўчыць дагэтуль,
Дыханнем чыстым
Повен час.

Патроху, з часам, не адразу
На яве добрае і ў сне
Вы дырыжыравалі фразай,
Што не пад сілу покуль мне.

Аберажэ адважны рыцар
Матыў праз доўгую зіму,
Каб шматгалоссем паўтарыцца,
Пачаўшы спеў па аднаму.

Не гаснуць зоркі, люстры, рампы
Непадалёку.
І даўно
Пераступіць парог той нам бы,
Каб не падглядваць у акно.

***

Вясна па кропельцы настане.
Назначце дзень, шчаслівы час,
Прыйду да Вас,
Як на спатканне.
Дазвольце бачыць,
Слухаць Вас.

Пад голас ангельскі прысяду,
Пакуль варожыць нам рука.
Запахне яблыневым садам
Аж з-пад кары красавіка.

І не было, каб у няволі
Смычок узрушана скакаў.
І не канчаецца ніколі
З апошняй нотай
Ваш вакал.

***

*Анжэле Турэвіч*

Хоць свет лёгкакрылы і грэшны
Ад нізу да зор перайнач,
Вы плакалі проста няўцешна.
Ледзь я перасільваў той плач.

І не адгародзішся створкай
Ад крыўды надзейна,
У час.
Я выйшаў.
Рабілася горка
За словы чыесьці для Вас.

Праз вокны плылі краявіды
З-пад хмараў да гордых вачэй.
Жаночая першая крыўда
За праўду бывае ярчэй.

Я выйшаў.
Усмешку вяртае,
Бывае што, толькі сляза...
Часіна забудзецца тая:
Не Бог жа Вам
Штосьці сказаў.

# *На конкурсе*

*Алене Пасюце*

Жураўліны крык з нябёс ляцеў
Аж да вашых вуснаў журавінных.
Голасу і сэрцу, і шчацэ
Дотыку хацелася Радзімы.

Вы стаялі побач бліндажа
І мяне,
Аж покуль цемра кане.
Тут паўсюль шчымлівы час ляжаў
Між усім,
Як ростань і спатканне.

З нас ніхто маўчаць ужо не мог,
Як гарэлі кропелькі каліны.
Мы з такіх сцяжынаў і дарог,
Нібы крык з-пад неба
Жураўліны.

# Яна

*Наталлі Собаль*

Няхай не жыць у рытме танца,
А ад святочнага стала,
Аднак,
Любіць і захапляцца
Прырода шанц і мне дала.

Калі заранка з небасхілу
Па ліпені, што пах наўкол,
Бландзінкай вабнай блаславіла
Яе
Кружыць квяцісты дол.

Маўчаць званы,
І дзень высокі
Ў чаканні выведзе паўкруг,
Пакуль яе не ўчуюць крокаў
І ўсплеску вытанчаных рук.

Пагляд па сонечнай пагодзе,
Як і прынёманскія сны.
З вясной у край яна прыходзіць
І застаецца да вясны.

На ёй бялюткая хусцінка,
Да траў — празрысты малахіт.
Сустрэўшы ў вобразе ліцвінкі,
Прад ёй
Сумеўся краявід.

На восень лёгка засумуе
Па роснай музыцы,

Але
Не разглядзець яе самую
Пад зіхаценне,
У святле.

Не будзьце болей, жырандолі
І балюстрады, у журбе.
Яна не бачыць
Іншай волі
Ні зоркам светлым,
Ні сабе.

# *Наша песня*

*Ірыне Краўчук*

Радок мой ціха сядзе да стала,
Як стане дзень у росах
Ці ў зеніце.
Каб гутарка душэўная пайшла,
Мелодыю насупраць пасадзіце.

Яны паладзяць праўдаю вачэй,
Нібыта дзеці, возьмуцца за рукі.
Жыццё для іх нанова пацячэ
Пад фарбы паднябесныя і гукі.

Змяніць наш свет захочацца не раз,
Пазнаўшы і нанова, і настрога.
І не разлучыць больш суровы час:
Імёны побач
І адна дарога.

Зажмурымся ад сонца.
І тады
Надыдзе міг адчайна запаветны:
Ніхто пакуль за доўгія гады
Не нараджаўся
Пад апладысменты.

# Краскі

*Таццяне Іоч*

Бабуліны спынілі дываны
Далёкі час.
І праўдай сталі.
Нам песняй адклікаюцца яны
На цёмнавокае Купалле.

Паўторацца аблокі і лясы,
Каб светла зварухнуцца думцы.
Ля Нёмна сёння ўсходзяць паясы,
Што здаўна слуцкімі завуцца.

Блакітны час ракою пацячэ.
Мароз на шыбах белабрысы.
З-пад цёплай поўні проста,
З-пад вачэй
Душы праясняцца абрысы.

Ляціць чаўнок, нібы над краем птах,
Пражылкі скрозь — сцяжынкай яснай.
І тут жа запыніліся ў руках
Гады,
Мелодыі
І краскі.

А дзесьці — не згубілася б хаця —
І сарамліва і нясмела
Між гамы фарбаў
Нітка пачуцця
Майго шчымлівага
Сцішэла.

# Гітары

*Святлане Ткачук*

Як сімвалічна гучалі гітары
Днём лістападаўскім,
Сонечным днём.
І не хапала цябе мне да пары.
Лебедзі блізка плылі за акном.

Незразумелая мова саліста
Блізкаю стала на час,
А затым
Вобраз знаёмы
І, можа што, блізкі
Цалкам даверыўся струнам жывым.

Дзень італьянскі,
Іспанская стома.
Твар адухоўлены,
Свой каларыт.
Покліч струны да канца не знаёмы
Ты аднаві,
Праз гады паўтары.

І не канчаліся, беглі па зале,
Просячы песні,
Шматкроп'і вачэй.
Як сімвалічна гітары гучалі,
Будзячы душы
Яшчэ
І яшчэ...

# Вальс

*Таццяне Дзякевіч*

Ім хочацца вяртацца
Ў далёкі бальны час.
У князевым палацы
Танцуе моладзь вальс.

Святлеюць сцены хола,
І адступае боль.
Класічны ўзор паволі
Прыпадымае столь.

Здаўна каханню верыў
Не толькі зорны Штраус.
Дзе вальс, там кавалеры,
Дзе дамы, там і вальс.

Магутныя калоны
Бы з чуйнай цішыні,
І вечар, чараў поўны,
Кружыў лістотай дні.

На пальчыках прыўстану,
Каб дацягнуцца хоць
Да стрэчаў і расстанняў,
Дзе зноў
Душа і плоць.

***

*Алене Чашчэвік*

Цяпер і ў былыя гады,
Пашклёныя белаю дымкай,
Паэты каханых заўжды
Сваіх
Адзявалі ў абдымкі.

Прыпомніцца потым, як дар
Прыроды, што летам паіла,
Падлетак, адзеты ў загар,
Ці я,
Ці мой брат каля Ніла.

Дзяўчынка бяжыць па расе —
Сусветная хіба падзея.
Вы ўраз, каб зайздросцілі ўсе,
Дачушку ў вясёлку адзелі.

***

*Аксане Кажура*

І пакуль пазалотаю люстры
Пазбаўлялі палац нематы,
Беларускія вершы па-руску
Пераказвала весела ты.

Кожны верш на свой лад маладзіла.
Павучыцца хацелася мне
Сумнявацца, любіць
І праўдзіва
Давярацца наступнай вясне.

А нахопіцца лёгкая стома,
А сустрэнецца дзіва-краса,
І да ранку цяпер невядома,
Што мне думаць
І як мне пісаць?

***

— Я веру ў цябе!
І на гэтым
Канчаўся прыснежаны дзень.
Забылася добрае лета
І шчасце ў былым дзе-нідзе.

А людзі спяшалі, шукалі
Астаткі знаёмага дня
На вуліцах, плошчах
І каля
Мяне,
Каб чаго не падняў.

Магічныя словы і клічнік,
Як казка, як быль, далячынь.
А поўня вячыстым аблiччам
Імкнулася дапамагчы.

Радок у святле папяровым
Застыў, як на ветры сляза.
Як мала паглядаў і словаў,
Каб штосьці табе адказаць.

Здагадкі сышлі і прыкметы,
А голас гучаў, не слабеў.
— Я веру ў цябе
І на гэтым
Мой дзень пачынаўся з цябе.

***

*Валерыі Кос*

Пайшлі.
Ні слова не сказалі.
Праз ноч — Галактыка ўваччу.
А покуль што ў вялікай зале
Паслухаць Вас яшчэ хачу.

Не прачытаеце ніколі
Радкі, сказаныя ў жыцці.
Вам пяць хвілін ісці да школы,
А мне за вечнасць не дайсці.

Так верыў словам,
Нібы высям,
На схіле дзён і снежных зім.
А Вы на сцэне засталіся,
Сысці забыўшыся зусім.

Каб можна хоць было з'явіцца,
Туды, дзе рэчанька цячэ
З начэй
Ці з даўняе крыніцы...
Хачу паслухаць Вас яшчэ.

Калі мой лёс, калі прычына
Ўсплыве аднойчы, што на дне,
Паклічце добрымі вачыма
Хоць з фотаздымка на сцяне.

## *У сімпатычнага стаматолага*

*Тарэсе Ярмак*

І хворы зуб рвучы балюча,
Жанчына лечыць на гады.
Бог талент ёй паслаў,
Каб мучыць,
Калі вясна,
Цвітуць сады.

Багаславіць душу і вочы,
Не адпусціўшы ні на крок.
А зуб — прычына напрарочыць
Яе настрой
І мой радок.

# Мой грэх

*Беаце Барась*

Яшчэ не пахнулі вясной
Пад снегам стомленыя далі,
А Вы напісанае мной
Па-польску хораша чыталі.

Пагляд туманіла сляза
Адна на ўсіх,
Адначасова:
Як позна, позна я сказаў
Для маці ўслых жывое слова.

Далонь у крыжа на плячы,
Яе ён скінуць быццам хоча.
Гады, як школьнік, палічыў,
А хто падлічыць дні і ночы?

Ужо вятры па-за сцяной
Напаміналі свежы плёскат.
А Вы напісанае мой
Чыталі хораша па-польску.

Апошні раз бялюткі снег
Усё павыправіў нібыта.
Аднак нявызнаны мой грэх
Як быццам небам не забыты.

***

*Алёне Гудзіновіч*

У словах не хапала мне чагосьці
Ды чулася мелодыя здалёк.
І раптам ты...
Амаль што з маладосці
І ранішні чысцюткі галасок.

Яго не чуў, як наступіла поўнач
Далёкае прыкотранскай вясны.
Амаль забыў.
Сядалі птушкі побач,
Прыпаміналі вобразы яны.

Амаль забыў.
Забыў званок вясёлы
І Караткевіча святую цішыню.
Што стаў далёкім ад цябе, ад школы,
Упершыню я сам сабе маню.

Дзіцячыліся дні,
То манатонна
Снягі ляцелі,
Потым — журавы,
Калі на дзевяць раніцы штодзённа
Прыносіла ты ўсмешку з-пад Літвы.

Аблокі Котра добрыя панесла,
Цяплом да кронаў дакранаўся сок.
Давай прысядзем на хвіліну ў крэсла,
Я памаўчу пад юны галасок.

Нарэшце, выхад твой узнёслы,
Маэстра, час, збавенне і святло.

Не чуць, не ведаць
Столькі ціхіх вёснаў —
Як тое толькі вытрымаць было.

На плечы падаюць далонькі клёнаў,
І я матывам за жыццё прамок.
Не, не забыў чароўную Алёну
І ранішні чысцюткі галасок.



## *Пісьмо табе*

У вёсцы, дзе я малады
І колецца свежа ажына,
Ужо пабялілі сады
І выраслі дзецi чужыя.

Дзяды ўпершыню без мяне
Пасадзяць прарослую бульбу.
І я надалей па вясне
Чакаць узыходаў не буду.

Пакрочыць з мяне селянін.
І толькі душа не здаецца:
Дзве вішні
І стволік адзін
Гадую чырвонага перца.

Жаўронкам страсаю расу,
Што ў небе і ў полі па двое.
І вудачкай Нёман пасу,
З вачэй каб не збіўся ў чужое.

Закружыць вясна галаву,
Як некалі, пільна і гожа.
А ўвогуле добра жыву,
Як Бог
І як ты дапаможаш.

# Голас

Шанцавала ж мне дайсці з паўсвету
Праз стагоддзі, рэкі, гарады,
Светлая Радзіма, па прыкметах
Да цябе, цяперашняй,
Сюды.

Мы ішлі шчаслівай грамадою
Бачыць Полацк, Крэва і Нясвіж.
Ты была князёўнай маладою,
Быў я князем Грунвальда паміж.

Мы яцвягаў словы разумелі,
Пазнавалі нас з табой багі.
І пускаў разгневаныя стрэлы
Неба лук,
Нацягнуты, тугі.

Больш дарог няма і непатрэбна,
Колькі б Млечны Шлях ні маладзіў.
Як жа позна зразумеў,
Што мне быў
Голас маці
І Радзімы
За адзін.

# Зорка

Калонамі неба падпёрта.
На покуце вечнай красы
Маўчыць адзінокая зорка,
Каб нашы пачуць галасы.

У радасць жыццё
Ці агоркла
За мулкую ў высях зіму,
Здаецца, патрэбная зорка
Надоечы мне аднаму.

Жыве над шумлівай кавярняй,
На вашай маўклівай страсе.
І нават, як самаахвярна
Згарыць,
Здрыгануцца не ўсе.

***

А што адбылося найперш
У сонечнае старане?
Вам там спадабаўся мой верш,
Бо Вы прыглянуліся мне,
Бо думаў прыгожа пра Вас
Без даўніх на тое прычын.
Не прыйдзе ні дзень і ні час,
Каб пашкадавалі аб чым.

Пакрыўдзіў калі, насмяшыў,
Пазбаўце тады галавы.
Вам проста мой верш па душы,
А мне
Не забыліся Вы.

# Пад аркаю

Пад аркаю ход дужа вузкі
І далікатны,
Як вечар.
У воблачку белае блузкі
Ішла Непасрэднасць настрэчу.

Ішла, паглядзець баючыся
На свет сарамлівы і строгі.
Ці, можа, каб я з добрых чыслаў
Не збіўся
І з вернай дарогі.

І сонцу прад ростанню дрэнна,
І мроіць пра песню гасцёўня.
Жыве дзе мая Непасрэднасць,
Як дождж,
Як завея,
Як цёмна?

# Сустрэча

А Нёман да радзімы туліцца,
Павесялеў лясны аер.
Яшчэ адно на нашай вуліцы
Смяецца сонейка цяпер.

Мяне і свет назад вяртаючы,
Яно не гасне дапазна.
З якой такой зайздроснай далечы
Твая раптоўная вясна?

Не надакучліва-заўсёдная
Між пасталелых туй і хвой.
Ішлі хвіліны велікодныя,
Насупраць храма —
Вобраз твой.

***

Дачакацца, пэўна, шанца
Не паспець
І на зары
Нам з табой пара вітацца,
Усміхацца,
Гаварыць.

А мелодыя за поўнач
Льецца, свеціцца ўваччу.
Толькі разам,
Толькі побач
Можна музыку пачуць.

Неба светла маладзее
І не спіцца аніяк.
Кожны дзень саманадзейны,
Нібы знічкі добры знак.

Час не дасць надалей шанца.
І на будучы ўспамін
Нам з табой пара вітацца,
Да сустрэчы —
Крок адзін.

# Усход

Першы здзіўлёны прахожы,
Бусел на вечнай назе.
Сорамна і непрыгожа
Спаць,
Калі сонца ў расе.

Коціцца, цёплае, роўна.
Толькі туману пылок.
З ціхага аэрадрома
Промень кранууўся аблок.

Сніцца хвілінаю кожнай
Светлае шчасце ў жыцці,
Каб сарамліва-прыгожай
Потым насустрач ісці.

# Ягады смак

Плыў ліпеньскі вечар-вяльможа
Над домам, над вербаю ніцай.
Вы бралі чарэшню прыгожа,
І я смакаваў яе быццам.

Ваш дворык пахучы застаўся
І Вы надвячэрняй парою
Ў далёкім загадкавым часе.
А смак неадступна са мною.

Какос каштаваў, спелы манга,
Гранат і сланечнік пацешны
Пад дзікае румба,
Пад танга,
Пад прысмак даспелай чарэшні.

Змяніўся той дворык?
Канешне.
Спадарыня іншая?
Можа.
Павырасла ў неба чарэшня,
А смак яе ягады —
Той жа.

# *Сонца, месяц і я*

Зайздрошчу стоена, вядома,
Што, акрапіўшыся расой,
Цяпер штодзень з аэрадрома
Ўзлятае сонца над табой,
Што з-за хмурынкі месяц смела
Ў тваё падглядвае акно,
Што ім за слова не балела
Ніколі
І ні за адно.

Пабыўшы міг на іхнім месцы,
Хачу вярнуцца давідна.
Ім абдымаць цябе і песціць,
Ды не любіць цябе ні дня.

Каб быць заўжды на падыходзе,
Там, дзе не снілася бяда,
Кружыў Пегас,
З вачэй сыходзіў,
Яшчэ той музыкі жадаў.

# Песня

Як колькі год назад,
Як паўстагоддзя,
Насустрач выйду
І тады
Захоча сэрца пры нагодзе
Цікавым быць і маладым.

Ты толькі вуліцай вясковай
Пасярод горада ідзі.
І па-над вежаю
Падковай
Нам блісне ў вочы маладзік.

Твой вобраз у пчаліным гудзе
Плыве пад звон мядовых ліп.
І так заўжды, напэўна, будзе,
Прыйсці ні выпала калі б.

Калі ж не вынайдзены словы
І пуста-гола на стале,
Няхай між намі выпадкова
Складзецца песня надалей.
І стане жыць непадалёку,
Калі да сэрца дастае.
Яна не будзе адзінокай,
Бо мы з табой ёсць у яе.

Няхай няўдачнікі
І збоку
Шчаслівым кожны быць паспеў.
Па галасах яе высокіх
Пазнаем раптам свой прыпеў.

# Аўтограф

Я веславаць хацеў да мелі,
Не адцураўшыся зямлі.
Удзячны вам, што зразумелі,
Не адштурхнулі,
Прынялі.

Нясмелы, сцішаны і строгі,
Вясны і сонца акрамя,
Гасцінец мой
З крутой дарогі —
Пад ваша
Добрае імя.

## Пра цябе

Сёння толькі пра Венеру,
Салаўя, гняздо што ўе,
Пра сябе, што ў шчасце верыў.
І ні слова пра цябе.

Маладое абляпіхі
Пацеркі на паплавы.
Непрыкметны горад, ціхі,
Дом ад сонца
Вуглавы.

Дзе пазвоньваў падаконнік,
Выдувала маршы медзь,
З цішыні зялёны конік
Мае ў поўдзень узляцець.

Што пагляды, зоркі, слава
На прыгожай старане,
Як, не дыхаючы нават,
Там штодзень праходзіць мне.

Пра вясёлку, ззянне, блікі
Пад усмешкі і ў журбе
Кожны дзень — пра свет вялікі.
А выходзіць —
Пра цябе.

# На вуліцы маёй

На Беларусі дваццаць дзве гадзіны
І роздум пра мінулае сваё.
Не спіцца на падушках у Радзімы
Пад пошчак закаханых салаўёў.

Па вуліцы маёй жыве Суворaў.
Гаспадаром жыве
Ці проста так?
Аж два вякі сваім мячом агораў
Па руні, пушчах, дзікіх балатах.

Каб ранак не кружыўся лёгкакрыла
І не сняжынкі смешныя зімой,
І ты каб міма часам не хадзіла,
Тут жыў бы сум
На вуліцы маёй.

# Між

Вандруе пад аблокамі,
Праходзіце калі Вы,
Брунетка чарнавокая,
Ваш позірк палахлівы.

Што значыць ён?
Ні голасу,
Ні зразумелых крокаў.
Так і жыву між космасу
І шчасцем  чарнавокім.

***

Таго пачуцця адгалоскі
Ізноў зачапіліся ледзь,
На хвосцік жвавае прычоскі
Карцела моцна паглядзець.

Шчаслівы колішні, здаецца,
На заімшэлым бальшаку
Ў той самы час,
На тым жа месцы
Стаю ад радасці ўбаку.

Свае радкі назваў тваімі
Ўзамен на добрае імя.
А паміж намі —
Зімы, зімы,
Дзе ты мяцеліцай сама.

Аціхне ўранні завіруха,
Нібы было даўным-даўно.
А ты маё маўчанне слухай,
Пачуеш праўду заадно.

Паспее гронка вішні стромай
За лета доўгае
Або
Зноў перагорнецца старонка
Пра нас з табой
Сама сабой.

***

Поглядам, рукою,
А кранi
I не будзь празорлiваю знiчкай.
Не хачу касмiчнай цiшынi,
Вернасцi, адданасцi касмiчнай.

Паляцяць далёка журавы,
Вернуцца ў пралескавы свiтанак.
На суседняй вулiцы жывi
Горада маленькага ў каштанах.

Як малiтва,
Малады абрад —
Бачыць на зары
Такiя вочы.
I iсцi, i думаць неўпапад,
Што хачу
I што вясна захоча.

Чуеш?
У касмiчнай цiшынi
Крокi,
Сэрцы,
Словаў нараджэнне.
Кулачок на ўдачу захiнi,
Каранi заўжды трымаюць жменю.

# Усмешка-раніца

Усё за дзіўнаю мяжой,
У затачэнні
І на волі.
І мы з табою больш ужо
Не павітаемся ніколі.

І не даруе нам зямля,
Хоць пройдзе дзён-начэй нямала,
Што ўсмешка-раніца твая
Між нас заложніцаю стала.

Яна пакутніцай жыве.
Але не стацца ёй святою,
Калі я ў памяці яе
Зноў гладжу цёплаю рукою.

# Верш

Нікуды месяц з кроны не ўцячэ.
Наступіць дзень,
Ён сонейку да пары.
А можна, я падумаю яшчэ
Над Вашым вершам юным светлатварым?

Адзін паветра свежага глыток
Нам падзяліць пашчасціла пароўну.
Падпраўлю рыфмы
Мяккі завіток
І пульс рытмічна
Выб'ецца на скроні.

Перачакаць халодную зіму,
З вачэй надоўга,
З памяці прапаўшы.
Спыталі,
Ці не страшна аднаму?
Я прамаўчаў,
Заняты вершам Вашым.

Што можна, акрамя такіх вачэй,
Дзеля душы асветленай
І верша
Насупраць запаліць
Яшчэ ярчэй,
Самому перад гэтым не згарэўшы.

# Вяртанне. Успамін

Юныя прахожыя
Песняю не сталі.
Могуць быць прыгожымі,
Нібы ты.
Не далей.

З прыбярэжнай вілаю,
З ціхім дзікім пляжам
Могуць быць шчаслівымі
Без мяне.
Аднак жа...

Ручайкамі-водамі,
Як мінулым болем,
Могуць быць падобнымі
На цябе.
Не болей...

# Прыгажосць

Зноў твой верасень настане,
Туман паслаўшы ў бераг густа.
Як заставацца да змяркання
Такой, як помніць здаўна
Люстра.

Пад вадаспад жывы,
Прад мостам,
Гучала скрыпка ля палаца.
Такой прыгожай
Жыць няпроста,
Каб давяраць
І давярацца,
Каб бачыць-чуць,
Як восень кліча,
Бо чэзне без цябе і гіне.
Зямлі змяняць штораз аблічча
Сваёй прысутнасцю
Багіні.

***

Рад і зямлі я, і дому,
І званару, і траве.
Толькі далей невядомасць,
Нібы той космас,
Жыве.

Хіба па гэтай прычыне
Колькі стагоддзяў
За ўсіх
Не адпускаю вачыма,
Думкай
Цябе
Ні на міг.

## Астэроід

Заўгодна натовы на ўсё,
Што просіць разумнае сэрца.
І гэта завецца жыццём,
І шчасцем высокім завецца.

Гарэць на вачах буду рад.
Кахаў, спадзяваўся і мроіў.
Я твой на свабодзе вар'ят,
Нібыта ў вяках астэроід.

***

За небакраем покуль промні
І затаіўся ў небе сад.
А я прачнуўся і прыпомніў
Бліскаўкі-словы
І пагляд.

Дарог у Бога, кажуць, многа
Глухіх і ясных да драбніц.
Няхай не ведае дарога
Твая
Завей і навальніц.

* * *

Ляцеў насустрач усяму
Святочны, ясны снег, нарэшце.
І быў за доўгую зіму
Адзін цудоўны дзень на свеце.

Зусім суцішацца віры
На Нёмне велічным і строгім.
Якое шчасце паўтарыць
Да вас знаёмыя дарогі...

* * *

Асеннія кляновыя лісты
Варушацца вясной па тратуары.
А чуецца,
Што ты,
Што ты,
Што ты
Вяртаешся з былога
Мне да пары.

Баюся наступіць на шоргат той.
Вядзе, нібы па мінным полі,
Сэрца.
Маўчанне ў ім тваё,
То голас твой
Чувацца на паўгорада,
Здаецца.

***

Япона-кітайскае штосьці
Цвіце пад акном,
Не канчае.
А ты запрасі мяне ў госці,
А ты пачастуй мяне чаем.

Вось так падступаецца вечнасць,
Бязважкімі робяцца словы.
А Шлях над галовамі Млечны
Да нас дамасціцца гатовы.

# Найгрыш

О, колькі павінна гадоў
Прайсці
І вады абярнуцца,
Каб мы засмяяліся зноў,
А ці разышліся па-людску.

Ты ж ночы палоніш мае
І поўдні з-пад воч забіраеш.
І дыхаць тады не дае
Струны заклапочаны
Найгрыш

# Вяртанне

Лёгка азваўся паркет,
І ажылі жырандолі.
Колькі шчаслівых прыкмет
Кружыцца ў гуках паволі.

Помніць палац паланэз,
Дорыць мазурку на памяць.
Белы язмін, белы бэз
Добрае танга вяртаюць.

Максімалізм юнакоў
І грацыёзнасць дзяўчатаў.
Ход рэнесансных вякоў
Скрыпкай з вышынь распачаты.

Полькі гарэзнай прэстыж
У пераменах раптоўных.
Юна і верна глядзіш
І адыходзіш няўлоўна.

А паспрабуй жа яшчэ
Так, як здаўна, хвалявала.
Не адыходзься з вачэй
Па-за мелодыю далей.

# Прабач

Даўно на крыллях не лятаў,
Яны з душою мне балелі.
А сонца проста з-за куста
Сядала
Ў воблака балею.

Аж пена мыльная ішла,
І Нёман небу пакарыўся.
Быў твой прыход,
Узмах крыла,
Душы акрэсленыя рысы.

Мы не заўважылі, калі
Ў дзяцінстве,
Потым дзён нямала
Было нам цесна на зямлі
І ў небе нават цесна стала.

Прабач за музыку з ліста
І за каханне,
За лілеі.
Даўно на крыллях не лятаў —
Яны з душою
Мне балелі.

## *Сляды*

Бы ў першы раз,
Як і тады,
Не хмельны дужа, не цвярозы,
Чытаю цьмяныя сляды
На незнаёмае дарозе.

Узыдзе вобраз уваччу
Непрадказальна і нанова.
Чытаю тое, што хачу
Перачытаць абавязкова.

Забыты Божы Запавет,
Як словы, погляды і ружы.
Супрацiўляецца мой свет,
А я яму насупраць
Дужы.

Жыву наяве, як у снах
Табой адной
І толькі вамі.
Сляды чытаю па складах,
Як з-пад сумётаў
Здабываю.

***

Падаюць зоркі, арэшкі
Ў сцішаным восеньскім садзе.
Самай магічнай усмешкай
Нельга памылкі загладзіць.

Як і запозненым словам
Нельга ўваскрэсіць былое.
Што ж мы паверыць гатовы
Месяца соннай падкове.

Вечар павіс над адкосам,
Ледзьве відзён
І ледзь чуцен.
Так пачынаецца космас
Асірацелых пачуццяў.

# Пытанне

Было б куды прасцей
Расстацца ім,
Калі ад праўды адышлі.
Аднак жа сіла гравітацыі
Не адпускае ад зямлі.

І нават звычаі спрадвечныя
Не ўшкадавалі шмат галоў.
Цярпелі грэшнікі
І кленчылі,
Яшчэ мацней кахалі зноў.

Насустрач раніцы не выйду я,
А распачнецца дзень якраз.
І хто на свеце толькі выдумаў
Каханне нашае
Без нас.

***

Ты ёсць.
Цябе адначасова
Паўсюль і ў памяці няма.
Ты прамаўляеш дзесьці слова,
А гукі скоўвае зіма.

І ім баліць,
Як не балела,
Наколькі здольная зямля.
А мне ступаць па снезе белым
Балюча, можа, удвая.

Так лета цёплае знікае,
І апускаецца крыло.
Ты ёсць,
Але зусім не тая.
Той
Бы ніколі не было

***

Я і не ведаў пра гэта,
Тайна адна на дваіх:
Моўчкі крыўдуюць паэты,
Толькі кахаюць услых.

Цёплыя словы і фразы,
Верны, як цень,
Успамін.
Толькі чытаем не разам
І зберагаю адзін.

Ты іх не бачыла нават
За маладое жыццё.
Меркне глыбокая кава,
Як пачуццё.

# Вінаваты

Ціхі,
Па травах пайду,
Бо вінаваты наўкола.
Ноч пакладу ў лебяду,
Буду, як зоркі, вясёлы.

Але сумненні ў жыцці
Не пакідаюць заўзята:
Ці дастаткова пайсці,
Як навакол вінаваты?

Двое ідуць уначы
Пад вераснёвыя шаты.
Як пашкадуеш аб чым,
Ведай,
Што я вінаваты.

## Рана-позна

Поле промнем узарана,
Праслязілася святло.
Ты сказала, што зарана,
Толькі позна ўжо было.

Позна ўспамінаць былое
І журботна без яго,
Дзе ад ночы прысак голы,
Ды жыве душы агонь.

Ты маўчыш, бо словам верыш
Менш і менш
І ўсё радзей.
Больш не скрыпнуць нават дзверы,
Бы стагоддзі без людзей.

Прыляцяць у вечнай стоме
Журавы і жаўрукі.
І забыліся дадому
Сцежку цёплыя радкі.

Не сустрэта, не спаткана,
Дзе зара, дзе воля,
Там.
Ці запозна, ці зарана
Ведаць сонцу,
А не нам.

І яшчэ — душы і сэрцу
Да знямогі, да канца.
Розум  проста ж надарвецца
Несці космас пачуцця.

***

Нечакана, чароўна і міла
Прыгажосць
Ад вышынь да камля,
Нібы раніца ў росах застыла.
А астатняе выдумаў я.

Узыходзіла зорка дакорам,
Аціхала ў заціўку зямля.
Мы чужыя памылкі паўторым.
А астатняе выдумаў я.

Толькі сумна і жудасна стане,
Як прыпомнім, зірнуўшы здаля:
Ні расстання,
Ні слёз,
Ні кахання,
Бо астатняе выдумаў я

# Пагляд

Пагляд дакрануўся здалёк
І што ён сказаў — не згадаю:
Пярэсты праплыў матылёк,
Што ўсё далікатней з гадамі.

Ён сёння зусім пасмялеў,
На мне затрымаўшыся доўга.
І стала наўкол весялей,
Ярчэй
Паабапал дарогі.

З сабою пагляд той забраў,
Ні Бог не асудзіць, ні людзі.
Заместа ён зораў і бра,
Заместа званка,
Што разбудзіць.

У моры бяздонных вачэй
З якое прычыны дарунак?
Пужлівы і ціхі яшчэ,
Затое для сэрца шматструнны.

# Да твару

Не думаў, не бачыў, не марыў,
Бо не сустракаў анідзе:
Вам белы халацік да твару
І раніца моцна ідзе.

Вам тое аднойчы казалі.
І, можа, не тое адно
На прыстані ці на вакзале.
Не мае значэння даўно.

Не мае значэння, што будзе
І што на змярканні было.
Лятаць навучыліся людзі,
Пабачыўшы птушкі крыло.
Вы ім узмахнулі аднойчы,
Пазбавіўшы волі мяне.
А лёс на свабоду захоча,
А можа што,
Нават і не.

Калі ж мне чакаць навальніцы
І дзе сустракаць Перуна?
Ваш погляд ужо не баіцца
Мяне
І наступнага дня.

Я проста не ведаў век цэлы,
Што цуды жывуць дзе-нідзе:
Да твару халацік Вам белы
І раніца моцна ідзе.

# Бачыў я

Даспявае восень сліваю,
Гусі ў памяць паплылі.
Сёння бачыў я шчаслівага
Чалавека на зямлі.

Ты маўчала ціхай раніцай,
Свет чаборам моцна пах,
Край мой фарбамі займаецца
І адценнямі ў вачах.

Там зарніцы ўсходзяць веснія
На паўсвету,
То крадком.
Там і я са свежай песняю
Ці хаця б адным радком.

Там сляза крынічным возерам,
Неба светлага апроч.
І пайсці ад тога позірка,
Бы туляцца з ночы ў ноч.

Бог бярог і вёў калі яго
Па аблоках і травой,
Бачыў я тады шчаслівага
Чалавека прад сабой.

***

Як волі вольнае ні просім,
Крылом шырэй заходзіць поўнач.
Туман і дождж.
Адсюль і восень.
І Вы, загадкавая, побач.

Усё зараз, адначасова.
Знікаюць словы,
Што як восы.
І гэта толькі прадумова,
Каб палюбіць
За гэта
Восень.

# Усмешка

За тымі дзвярамі, здавалася мне,
Хапала заўсёды цяпла і святла.
Бо там, пры вазонах,
Пры ціхім акне,
Усмешка за тымі дзвярамі жыла.

І нават увосень, пахмурна калі,
Калі, нібы лес, невясёлыя мы,
Кружыліся мары ніжэй да зямлі —
Усмешка жыла па-за тымі дзвярмі.

Жыла сарамліва яна нездарма.
І дзень зачынаўся на ўсходзе ледзь-ледзь,
Ёй часу чымусьці няма і няма,
Каб выглянуць сонцам,
Душу адагрэць.

А вечар да цёмных акон прыстае,
Далоні ляжаць
На прыбраным стале.
І выпусціць — страх,
Нібы птушку,
Яе,
І нельга не ўбачыць
Яе надалей.

# *Паслухай…*

Зноў пад сябе восень лісце грабе.
Золатам — скрозь завіруха.
Буду сягоння маўчаць для цябе,
Абавязкова паслухай.

Абавязкова пачуй цераз ноч,
Цераз расстанне і скруху.
Думкі мае не міні, не суроч,
Рукі і позіркі слухай.

Слухай вышыні,
Расу і траву,
Бо не пачуеш іначай,
Дыхаю чым
І навошта жыву,
І адусюль цябе бачу.

Потым прыгожа прайдзі па жыцці,
Нібы дарогай ці лугам.
Песню маю палюбі,
Адпусці.
Вернецца птушкай —
Паслухай…

# *Па светлых думках*

Лісты асеннія наўсцяж
Не супакояцца,
Апаўшы.
Прыйду наўгад сюды,
Інакш
Не распазнаць мне сцежкаў вашых.

Сам заспакоюся тады,
Калі зіма сюды
Ад лета
Патроху вашыя сляды
Карункам вырабіць адметным.

Паразуменне на зямлі,
Калі ў лугах пасуцца коні,
Цвыркочуць конікі,
Калі
Прыемна вам
І мне спакойна.

Калі натоўп імкне
Па хлеб,
Відовішчы
І ў памяць,
Хай вочы добрыя мяне
Па чыстых думках
Адшукаюць.

# Мелодыя, дождж і жанчына

Іграў музыкант для прахожых
Знаёмы да болю матыў.
Сярод беларусак прыгожых
Кудысьці спяшалася ты.

Хоць раз запыніся.
І можа,
За музыку больш патрывож.
Іграў саксафон для прахожых,
Асенні прыслухваўся дождж.

На ноты сядаў і на вейкі,
На позния ў лесе грыбы.
Аранжавы ўзровень бяспекі
На сёння аб'яўлены быў.

Пры гэтым заўсёды магчыма
Ваколіцы стаць маладзей:
Мелодыя,
Дождж...
І жанчына
Праз восень ідзе
І ідзе.

***

І надышло ўрачыста свята,
Што паміж намі ўсё радзей.
Я злодзей твой невінаваты
І вінаваты дабрадзей.

Пакорна ўкленчыла калі ты
Са мной
Святой імшы падчас,
Спакон знаёмая малітва
Яднала думкі нашы,
Нас.

Паветрам, небам і вадою
Напоўніў купалы арган.
І без таго
Цябе святою
Лічыў анёлак
І я сам.

# Леаніды

Праз ноч,згаварыўшыся нібы,
Па зорчынай яснай сяўбе
Наўпрост ад мяне да цябе
Ляцяць і ляцяць леаніды.

Ляцяць леаніды.
Не сядзе
Ніводзін у кроне.
Ну, што ж...
Ты сэрца сваё не трывож —
Яны застануцца ў паглядзе.

Ляцяць праз стагоддзе не часта,
Да нашых хіба што сустрэч.
Ні словам ты ім не пярэч —
Ляцяць леаніды на шчасце.

Мы знічкамі хуткімі мроім.
Няхай жа пазведае спрыт
Над намі адзін леанід,
Зрабіўшыся нашым паролем.

І я пакланюся, напэўна,
Яму за гады ўпершыню,
Як добраму лёсу-агню,
Сурова,
Душэўна,
Напеўна.

# Зноў

Зноў падмывае на акраіну
На самую паехаць Беларусі.
Неабыякава і правільна
Напроста сцежкамі прайдуся.

Там, дзе канчаецца мяцеліца,
На падыходзе
І прысяду.
Сябры з вачэй, з Краскова,
Не падзенуцца,
Як сонца,
Анікуды
З далягляду.

Сваім блакітам зноўку колецца
Яліна мякка і вясёла.
А ты павінна праз ваколіцу
Адчуць, што дома я,
Ля школы.

І толькі дзесьці за граніцаю
Нябёсы соснамі падпёрты.
Там пачынаецца крыніцаю
Мая нявызнаная Котра.

# Журавіны

Нельга мне цяпер бязвінна
За раку пайсці,
Але
Котранскія журавіны
Чырванеюць на стале.

Хоць вадой сплывае памяць
Аж за Нёман-далячынь,
Ягады паведаць маюць
Пра былое
Шмат аб чым.

Там, дзе воўкаў след, лісіны,
У імхах, лясной траве,
Паміж купін засталіся
Нашы сцежкі па Літве.

Там бярозавыя нішы
І да рук уецца хмель.
Нас адных дрыгва калыша,
Нібы мяккая пасцель.

Там трывае ў светлых шатах
На імшарынах густых
Пацалунак церпкаваты
Журавінных губ тваіх.

Сцерагу цяпло праталін,
Каб каралі журавін
З небыцця заўжды вярталі
Час адзін,
Як міг адзін.

# Раяль

Маўчу прад ім заўсёды шчыра,
Нібы прад даўняю радзімай,
Бо паляцець у сумны вырай
Не мог раяль
З крылом адзіным.

Стаіць раяль.
Сняжынкі ў вэлюм
Снуюць па клавішах да мая.
Спадаюць белыя да белых,
Сняжынак чорных не бывае.

То гукі цешылі, то стылі,
Крананне рук прасіла цела.
Ён прызямліўся, аднакрылы,
Там, дзе яго пачуць хацелі.

Ускінеш пальцы грацыёзна
І па-над вежамі, напэўна,
На небасхіле будзе можна
Пабачыць зноў слязу Шапэна.

Не адрывай пагляд ад клавіш,
Бо ён магічным стаў дарэшты.
Пакуль ты гэтым светам правіш,
Гучыць раяль,
Нібыта вершы.

Мне журавы з вышынь казалі:
Што б на зямлі ні адбылося,
Вясна сыграе на раялі
І потым —
Залатая восень.

На ім усе іграць умелі —
Бярозы сплаканыя, сосны,
Расінкі, вочы, акварэлі
І нават месяц высакосны.

Я не асмелюся, адзіны,
Сказаць, што іншыя казалі.
Вы, хто не здатны на ўспаміны,
Не падыходзьце да раяля.

А на прыступках ля палаца,
Нам прадракаючы сустрэчу,
Князёўна будзе хваляваца,
Пакуль плыве раяль у вечнасць.



Я збіраў маліну з-пад мядзведзя,
Ты спяліць маліну памагала.
І было:
Трымаючыся ледзьве,
З сэрца проста даставала джала.

Не апошні давяраў, не першы
Таямніцы
Добрае паперы.
І пісаў загадкавыя вершы,
Памагала ты любіць і верыць.

Заблудзіў у пушчы Нарбутоўскай,
Ты да Котры выйсці памагала.
Ціхай, ледзьве чутнай, пагалоскай
Стала
І вяла, вяла нямала.

Зоркі я ў стажкі збіваў за лесам,
Падграбала ты іх у пракосы.
І святочная гучала меса,
І стажок удаўся нам не косы.

Вобраз твой з-за лесу, з-за асокаў
Ранкам узвышаецца памалу.
І не важна,
Што тады здалёку
Ты ва ўсім рупліва памагала.

З верасоў, са слова, з сініх даляў
Правільна да слёз
І як умелі
Мы з табою новы дзень вярсталі
На лісце зары чырвона-белай.

# У Варнянах

Гэтыя сцены ад злых навальніц
Продкаў тулілі да рання.
Помняць, напэўна, яны да драбніц
Іх маладое каханне.

Ціхі гадзіннік хвіліны лічыў
Іх спадзяванняў далёкіх.
Тут маладзіца на дужым плячы
Спала пад буслявы клёкат.

Белыя птушкі аднойчы мяне
Потым увосень прынеслі.
І загучалі гучней і страйней
Дзедавы добрыя песні.

Новая Вёска
Вітала вясну,
Мех насыпала насенны.
Тут я падоўгу цяпер не засну,
Слухаю продкавы сцены.

Хтосьці таемны ажыў у сцяне
І варушыўся, і грукаў.
Певень гарласты разбудзіць мяне,
Потым — дзяцей
І праўнукаў.

Ранак ускрыліць
Анёлкам жывым.
Час і ягоны — імгненны.
Ведае дзед
За пагоркам сваім
Думкі мае
І памкненні.

# Віншаванні

Тэлефануе Дубатоўка
І Голуб,
Вечна малады.
Здаецца, час падлічваць лоўка
Свае даўжэзныя гады.

Хвілінаў колькі памаруджу
І адкладу падлік яшчэ.
Сарву запозненую ружу
Для рук тваіх
І для вачэй.

Жывём спадзевамі на ўдачу,
Ва ўгоду сонейку якраз.
За віншаванні
Сам аддзячу,
За памяць
Выслухае час.

# Догі

Часам стаптаны падлогі,
З ночай калодзеж аціх.
Сціплая вёсачка Догі
Лашчыць экзотыкай слых.

Тут, нават мне падалося,
Хтосьці забыў маладосць.
Будзяць акругу калоссі,
Крыху запознены дождж.

Вершам і моваю чуў я,
Як твой світанак прамок.
Сэрцам сцюдзёным начуе
Дачніка ціхі
Замок.

Покуль сцяжынаў, дарогаў
Позіркі прагнуць і слых,
Сняць рамантычныя Догі,
Пэўна, мяне,
А я — іх.

# Птушкі і час

Будуюць ластаўкі гняздо,
Як і раней — раднёй часцей.
І толькі ў кронах маладосць
Усё становіцца віднеей.

Не дапаможа больш віно,
Як сам сабе не дапамог.
І за кустоўем не відно
Ніводнай з пройдзеных дарог.

Тут не пасуць ужо кароў
І толькі помняць зрэдку час.
Цяпер ад тузіна двароў —
Бабуля Яня,
Дзед Міхась.

А сонца рупнае ўзышло
На твары, думкі, на крыжы.
Будуюць ластаўкі гняздо,
Хоць ім вазьмі дапамажы.

Што ж апускаецца рука
Пад час нямы, глухі такі:
Ці прымуць птушкі чужака
Да векапомнай талакі?

# Мастак

Мастак гатоў гадам скарыцца,
Застацца назаўсёды тут.
Ён прадчувае навальніцу,
Якая змые пыл і бруд.

Дапоўніць сонца светлым тонам,
Пашырыць родны небакрай.
Яму разважліва, спакойна
Вачыма, думкай
Давярай.

Яго на ўзлёце выдасць сэрца,
У тым сакрэт і запавет.
Калі аднойчы засмяецца,
То чалавечней стаў Сусвет.

Вастрэлі бліскавіцаў пілы,
На дубе палі папалам.
Так дасканаласць наступіла —
Пабачыш сам,
Адчуеш сам.

# Дарога

Не па сабе становіцца, што клікаў
Дарогай гэтай пяць вякоў назад
Мой слаўны князь,
Разумны і вялікі,
І брата не зважаў у бойцы брат.

Дадому еду зноў.
Усе Святыя.
Дарога — не гравейка і не гаць.
Дзе межы незаплямленыя тыя,
Якія нельга нам пераступаць?

## *Сказ пра кнігу*

Думаў аўтар перад поўняй
І пры сонцы, што ўзышло,
Каб утульна і спакойна
Вершу кожнаму было.

Клопат меў ля спелых гоняў,
На затоках і віры,
Каб прызналі верш ягоны
Па Нясвіжы і Дняпры.

Каб пазналі верш без болю
Адзінокія
І ўсе
Па каханні і любові,
Па чаканні і тузе.

Выпадала, як калісьці
Ў незапамятныя дні,
Быць праўдзівым летапісцам,
Бітым быць
І на кані.

І была не спаць прычына
Прад усходам
Па вясне:
Думаў аўтар пра Айчыну,
Пра цябе
І пра мяне.

***

Балюча як
Гараць чарнавікі,
Ты гэтага не зведаеш ніколі.
Знікаюць,
Як па восені шпакі
Ўчарнелыя,
Пазбаўленыя волі.

Звычайным шэрым попелам зямлі
Ляцелі б міма нас з табой
Гадамі,
Калі б яны адно для нас былі
Пакрэсленымі ўшчэнт
Чарнавікамі.

# *Памяці Уладзіміра Сарокі*

Прыйшла пара,
Ізноў стаю
З апушчанаю галавою.
Усё часцей нясу сваю
Зямную вахту прад труною.

Пасля спякоты і дажджоў,
Світанкаў і гадзіны мулкай
Зямля і неба
Дзеляць зноў
Учынкі, крокі, мары, думкі,
Мне пакідаючы ўспамін
Вясёлы, светлы
І журботны.
Усё часцей,
Усё адзін
Стаю ля крыжа адзіноты.

Прыйшла вясна.
А мы маўчым
Пра дзень чужы, сурова-новы,
Нібы сказаць няма аб чым,
Нібы нас выракліся словы,
Што ім, вятрам, загаласіць
У цёмным могілкавым веццы.
І знічкі тоненькая ніць
Хоць міг адзін,
Але пасвеціць.

***

Яшчэ разок усё збылося,
І край знаёмы моцна рад.
Цвіце чабор,
Шуміць калоссе,
Не сумняваецца пагляд.

Тут назаўсёды ўсё,
Навечна.
А на платформе зноў цішком
Прыпамінае Маладзечна
Мяне ранейшым дзіваком.

Яшчэ разок усё збылося.
У спадзяванні і журбе
Развёў такое шматгалоссе,
Што не чуваць ужо сябе.

* * *

Там не цвіце вясной шыпшына,
Дуб не хвалюецца ўгары.
Жыве чароўная жанчына
Ў звычайным доме і двары.

Яна парадкуе дарожку,
Бялізну прад Велікаднём.
Смялее раніца патрошку
Сваёй жаноцкасцю кругом.

Яе вясенняя паходка —
Ты не падумаеш аб чым —
Развее хмуры дзень кароткі
І не заблудзіцца ўначы.

Ускіне крылле дзень вясенні
І зварухнуцца сокі ледзь,
Высокіх словаў і памкненняў
Яна не хоча зразумець.

Сустрэча выдалася строгай,
І час маркоты не суняў.
Паміж усмешкай і трывогай —
Нябёсаў бездань,
Цішыня.

***

На плошчы Масленіца польку
Скакала весела і чынна.
Чакала побач,
Строга толькі,
Непрадказальная жанчына.

Зіма на возеры памалу
Да рук, як лебедзь, не падыдзе.
Напэўна, дрэнна сустракалі,
Бо пабыла кароткі тыдзень.

Па той прычыне, што, магчыма,
На плошчы пахкай, як бывала,
Непрадказальная жанчына
Маіх бліноў не каштавала.

# Спеваку Каліне

Вясенні гром на Беларусі
Страсае з воблакам душу.
Я зразумець цябе бяруся,
У цішыні
Нібы грашу.

Цябе расійскія прасторы
Закалыхалі назаўжды.
Сябе любіць
У раз каторы
Змушаеш нашы гарады.

Вакол падлеткавыя страсці,
Патрыятычны класіцызм.
З рэалій дзён, каб не прапасці,
Выходжу з музыкі зусім.

Ты мадэрновы і былінны,
І зразумелы дабяла.
А зацвісці твая каліна
Ля Нёмна так і не змагла.

# Беларус

Хто зможа выслухаць пра гэта,
Яшчэ галоўнае — калі?
Няўдзячны, сумны лёс паэта
На беларускае зямлі.

Я напішу,
А Юрка Голуб
Уважыць сціплую красу.
Напіша ён,
Я ж кветку ў школу
Яго метафарай нясу.

На тым і скончацца чытанні,
Сусед надарыцца яшчэ.
І слова дыхаць перастане
Без сонца, думкаў і вачэй.

Не, не канец надыдзе свету,
Так мы стагоддзямі жылі.
Хто зможа выслухаць пра гэта,
Яшчэ галоўнае — калі?

Ты ж ганарлівы, мужны, стойкі,
То быць сабой сябе прымусь.
На роднай мове
Плакаць толькі
Не развучыўся беларус.

# Аб вечным

Крок ступіце адзін,
Працягніце руку —
Цішыня аб пагляд разаб'ецца.
Вашы сінія дзверы
Заўжды на замку,
Як і гордае, гордае сэрца.

Я таксама іду
І таксама магу
Скамянець пры наступнай сустрэчы,
І маўчаць, і крычаць,
І любіць на хаду,
Бо не ўмею падумаць
Аб вечным.

***

Тут, пад нябёсамі, пад сінімі,
Дзе пахла сонцам сенажаць,
Мяне па голасе,
Па імені
Ты пачынала забываць.

Не страшна далей мне параніцца,
Ледзь горад язьмінам прапах.
Я ж пазнаю цябе па раніцы
І забываю
Па слядах.

# Вачаняты

Ізноў я восенню заняты.
Яна ва ўсім
І навакол.
Карычневыя вачаняты
Каштанаў
Падаюць на дол.

З-пад ног, з-пад колаў іх ратую,
Штовосень не перастаю.
Яны няхай у ноч святую
На прыгажосць глядзяць тваю.

Ужо не можа быць іначай.
Яны пры поўні, пры стале.
Яны ніколі не заплачуць,
Як вочы сумныя твае.

# З натуры

Каб на добрае вялося,
Па ваколіцы яны:
Збоку — возера, калоссе,
Стукат клавішны жаўны.

З балюстрад,
Як цемра стане,
Да світальнае пары
Азіраюцца паданні,
Адклікаюцца вятры.

Каб змагла вясна прысніцца
Князю юнаму
І мне,
У палацы аканіцы
Зачыняюць
Як шчыльней.

# У аўтобусе

І пальчыкамі ў манікюры
Вы праціраеце акно.
Хацелі ўбачыць дзень не хмуры,
Пражыты час даўным-даўно.

І я пейзаж адмыю вязкі,
Пусціўшы да вачэй святло.
Вам шчыры дзякуй за падказку,
Калі ад сэрца адлягло.

Аднак пакінеце зарана
Салон раптоўна і мяне —
Усіх.
Усё так проста і складана,
Нібыта дыхаць за дваіх.

У свет глядзець вялікі будзе
Акно, прамытае тады.
І штосьці думаць будуць людзі
На нашым месцы
Праз гады.

# *Услед аблокам*

І спяшаюцца ўдалеч дарма
Пацішэлыя,
Быццам бы гусі:
Для мяне незнаёмых няма
Ні аблок над маёй Беларуссю,
Ні сярэбраных велічных хваль,
Ні далёкага роднага голля...
Ды не ўспомню
Ні слова амаль
І ні голасу вашага болей.

***

А за туманам — зялёнае лета,
Вечар яго не парушыў.
Сум вераснёўскі,
Знаёмы і светлы,
Думкі яднае і душы.

Даўняя восень спяліла ў прыполе
Верны спадзеў мой
І голас.
Пэўна, зямлі без мяне, як ніколі,
Сумна сягоння і гола.

Тое сустрэнецца, што не збылося,
Восень падорыць маністаў.
Час расставання насуперак лёсу
Светлы,
Празрысты
І чысты.

# Адзінота

Сілуэт небакраю відзён
І тваіх аблачынкаў канверты.
Надакучыла лірыка дзён
На хрыбце парыжэлага ветру.

Дысанансам гучыць унісон.
Пад мяцеліцу хочацца збочыць.
Надакучыла лірыка дзён
І здагадкі касмічнае ночы.

Фантазіруй, хлусі —
Не маўчы.
Не знікай, маладзіся і радуй.
Гэты край падзівіць яшчэ чым,
Як не болем,
Слязой
І не праўдай.

# Званок

Званок з невядомых краёў
Асвеціць пакой на змярканні.
У трубцы — маўчанне тваё
І доўгае ў вёрсты чаканне.

Сярод галасістых гадоў
Магчыма, што хтосьць памыліўся.
А ты паімчацца гатоў
Удалеч зямную
І высі.

Руку не адымеш з пляча,
І будуць нясмела, нанова
Пад гэта маўчанне гучаць
Імя
І нячутыя словы.

Маўчыць тэлефон,
І таму
Праз ноч, што зарніцай спавіта,
Падказваю словы яму,
Дзіцяці малому нібыта.

# На шчасце

У небе птушкі.
Ім відаць
Адтуль дакладна, несумненна,
Дзе гадам тоіцца бяда
І шчасце дзе ідзе на змену.

Падвечар ластаўкі варон
Падменяць, шумных і крыклівых.
Спытайце соваў пад настрой
Пра шчасце,
Хочаце калі вы.

Засне гняздом
Уся зямля
Свая для кожнага, святая.
Спытайце, зрэшты, салаўя,
А я затым у вас спытаю.

# Дождж

Дождж патасуе людзей,
Думкі і нас з табою.
Мне ад яго маладзей,
Бліжай да неба душою.

Ён, як надзея, адзін,
Ніцямі лучыць, яднае.
Выйду
І цёплы ўспамін
Шэпча малітву над намі.

Хто гэта выдумаў дождж
І падзяліўся па кроплі.
Так мы з табою
І хтосьць
Небам і сонцам намоклі.

Дождж ласяняцем пабег
Неяк па-свойску, па-людску.
Будзе прычына
Павек
Кропелькаю
Дакрануцца.

# Сказ пра Адама

I

Хоць і Адам,
А жыць улегцы
Не давялося на мяжы.
Пабыў пры Польшчы і пры немцах,
І пры саветах паслужыў.
Равеснік Коласа, Купалы,
Пяшчынскай Цёткі з-пад Двара.
Пісаць, чытаць вучыла мала
Тады ягоная пара.
Аднак спасцігнуў крыху мовы,
Бо з Вільняй сябраваў жмудзяк,
Па-польску думаць быў гатовы
І па-расейскаму сяк-так.
Адной абходзіўся ён зранку,
Другой — падвечар,
Але зноў
Найлепш давалася трасянка,
Найбольш было там шчырых слоў.

II

Не давялося дзеда бачыць.
Закукурузіў край Хрушчоў.
Адзін пайшоў адсюль Бялячыц,
Другі, няўрымслівы, прыйшоў.
І чорна-белы фотаздымак
Мяне пытае праз гады
З туману, воблакаў і з дыму:
— Дзе ты,
Як ты,
Хто ты,
З кім ты?

Тут цішыня, як перац горкі.
Хоць б'ецца-рвецца мноства струн,
Мы не змяніліся ніколькі:
Народ-маўчун,
Народ-пярун.

III

Стаяла цяжкая задача
На кожным новым рубяжы,
Каб штосьці ў лёсе перайначыць,
Чакаць патрэбна,
Пеpажыць,
Перамагчы
І зноў спачатку
Расціць карэнне і кару.
Так жыў, жыве сваім парадкам
Народ-маўчун,
Народ-пярун.
Сабе самыя маем перцаў,
Крыніцаў, сонца і дарог...
Хоць і Адам,
А жыць улегцы
Не давялося,
Бачыць Бог.

# *Кароткі верш*

*Сястры Люсі*

Лёгкі пылок на вярбе.
Птушкам за гнёзды спрачацца.
Хочацца ў вёску табе,
Закаранелай мінчанцы.

Там патрухнелі слупы
І затуманена вока.
Нібыта хочацца піць
Вёсцы тваёй адзінокай.

Хопіць.
І не варушы
Ліпы стамлёныя, клёны,
Воблака ціхай душы
Па-над падворкам зялёным.

Я не паеду туды
І анікому не раю.
Зорка нясцерпнай нуды
Па-над зямлёй дагарае.

* * *

Свет, бы лёд вясенні дужа крохкі,
Лісцем і туманамі замглёны.
Забываю ў роспачы патроху
Множання табліцу
І імёны.

Да святла, бы юнаку, не спіцца
І заўжды на зорцы дужа ранні.
Пацьмянелі іншыя табліцы,
Аж гарыць табліца адымання.

Вычытаюць травы мне і промні
Свежую на воблаках газету.
Як забыць імя тваё сягоння,
Я ж яго не ведаю дагэтуль.

# Згадка

А гэта было не са мной,
Не з вераснёўскімі вершамі,
А з тымі, хто ранняй вясной
Кахалі і верылі першымі.
Глядзелі на свет цераз шкло
Вясёлкавае, каляровае.
І час, ад якога ішло,
Здаваўся бясконцаю прорваю.

Вясна распушыла галлё
Пасля павучальнае вербіцы.
Вычытваем быццам сваё,
А вобразам, словам
Не верыцца.

У красках і пахах сяло,
І памяць, здаецца, застала ўсё...
А тое са мною было,
Што з музыкаю рыфмавалася.

# Насупраць

Не думаў сам, што незнарок
Хвілінай кожнаю і штораз
Мой пэндзаль ведаў добры толк —
Ваш праясняць
Высокі вобраз.

І, захінуўшыся ў крысо,
Насупраць белага палаца
Не ведаў бедны Пікасо
Куды глядзець,
Кім захапляцца.

***

Марудзіць час.
Яго разварушыць
Без рук, паглядаў проста немагчыма.
Як і без ласкі ціхай,
Без душы,
Калі кахае верная жанчына.

Зайздросціць час.
Нясе з апошніх сіл
Цябе, мяне па воблаках, лагчынах.
І зацугляць дарогай
Небасхіл,
Здаецца, толькі здольная жанчына.

Мой добры час,
Пабудзь яшчэ са мной
Разгубленым,
Разгневаным
І чынным,
Пакуль праходзіць
Светлая жанчына
Імклівай сцежкай,
Свежаю вясной.

# *Цвіценне*

Звычайны дзяцельнік уроссып,
Мядова-белы,
Нібы ў сне,
Калі ізноў заззялі росы,
Радзімай пахнуў для мяне.

У поўдзень пчолка рупна сядзе,
І чмель зляціць пад касаўё.
Я залатыя крыльцы гладзіў,
Бы шчасце ўяўнае сваё.

***

У гэтым горадзе знайсці
Вас абсалютна немагчыма.
Нібыта ў велічным жыцці,
Таму што Вы —
Паўсюль жанчына.

Пакуль не прыйдзеце сама
Пад покрывам начнога пледа.
Хутчэй бы снег,
Хутчэй зіма —
Не растварыцца Вам бясследна.

# І высокае Вы

Буяў і галіны ламаў буйны час.
І вось выпадкова аднойчы
З букетам прыйду адумысне да Вас,
Каб глянуць у добрыя вочы.

Паўтораць над краем
Бацькоў журавы:
То ў вёсны шнуруюць,
То ў памяць.
І звыклае ты,
І высокае Вы,
Нібыта гады —
Аддаляюць.

# Ражанка

Вось-вось святло ў апеку возьме
Ствалы, вяршаліны, камлі.
У рух пайшлі малакавозы
Па краі шчучынскай зямлі.

А дні не ўмеюць сустракацца.
І што ні дзень —
Як я,
Адзін.
І даляціць да графа Паца
Па шпалах
Колішні ўспамін.

Сплыве хмурынкай
Дроў вязанка
Па небасхіле, па акне,
І выйдзе юная Ражанка
Ў чырвона-белым да мяне.

* * *

Мы выходзім —
Наша станцыя
Кліча голасам глухім.
Нават зоркі асыпаюцца
Ў лістапад
На небасхіл.

Не лічылі, пачынаючы,
Ні гадоў і ні буслоў,
Каб прывезці
Краю з далечы
Новы дзень
І колькі слоў.

Тое стала.
Нам жа выпала:
Напярэдадні расы
І вяртаннем,
І малітваю
Ўсіх Святых
Перапрасіць.

## *Тапаліны пух*

І з табой забыліся аб нечым
Мы адразу ўдвух.
Зрушыў свет, здавалася, падвечар
Тапаліны пух.

І, каб не балела нам сягоння
На былой вярсце,
Навагодні пух
Праднавагоднім
Снегам замяце.

А пакуль нам яблыні і грушы
Дораць лістапад,
Тапаліны пух
Сузор'і зрушыў
Безліч год назад.

## Пошук

Падкажа час,
Напомняць травы,
І ты душу гатоў праліць,
Каб як жыццё-быццё падправіць
Высокай музыкай крыніц.

Ды хтосьці ўсё ж падслухаў лепшы,
Пакуль мой дзень ішоў і бег,
Адценні фраз
І зыкі вершаў,
І плач нябёс,
І праўды смех.

Калі святым бываю,
Грэшным,
Калі ў нябёсах і на дне.
Жыццё ж падправіла,
І лепшай
Жадаю песні для сябе.

# *На развітанне*

Мая апошняя старонка,
Чарговы я ў тваім жыцці.
Зрыфмую весела і звонка —
Не абмінуць, не абысці.

Мы не спаткаемся ніколі
На полі чыстае красы.
І будуць час ад часу болем
Усходзіць нашы галасы.

За рэчкай, лугам і гарою,
За незамкнёнымі дзвярмі
Яшчэ рэальныя з табою
Ці сталі прывідамі мы?

Папера легла, як хімера,
Як камень — гром не зварушыў,
Якой я верыў і не верыў,
А ты прыгрэла ля душы.

Адзін быў верасень у сонцы,
У хмарах верасень другі.
Я ж пакланяюся старонцы,
Дзе сонца,
Краскі
І стагі.

Я гаспадар
І князь палаца.
Праз таямнічы лёгкі сон
І пазалочаныя дзверы
Ўваходжу.
Мне знаёмы ён
І праз гады маўчання
Верны.
Мяне пазнаўшы аднаго,
Камін зацепліцца ў зацішку.
Партрэт прапрадзеда Францішка,
Пагляд пранізлівы яго.
Не вяне ў вазе на стале
Букет рамонкаў для Марыйкі.
З гасцінай мкнуцца да мяне
Віяланчэлі, скрыпкі зыкі.
А побач ціша дзень за днём
Ужо, як некалі, павісла.
У даўнім парку
За акном
Ліхтар запальвае Станіслаў.

***

Яшчэ няма вясны якраз,
Няма шыкоўнага палаца.
На ўскрайку Шчучына меў час
Маёнтак княжы красавацца.
Пра век айчынны залаты,
Што Рыму быў самому ровен,
Казаў мне князь былой Літвы
І не лічыў ніжэй за гонар.
Ля Вільні велічна святой,
Перад Гародняй самавітай
Зімою той
У вечар той

Нас паланіў
Вялікі Вітаўт.
Павёў за Нёман, за Дзвіну,
Ледавікі і за паганства,
Дзе мелі мы любоў адну
Да краю роднага,
Да княства.
Павёў на радасць і на боль
Пад Грунвальд слаўны і пад Кіеў.
Мой князь,
Мы розныя з табой,
І мы падобныя такія.

***

Плыў за акном пчаліны вір
На прадабедзенныя краскі.
Ляжаў скарынінскі "Псалтыр"
За тонкім шклом венецыянскім.
Да сцен дубовых прыхіліў
Кудлаты голаў
Час былінны.
З вышынь маўчалі каралі
На подых цёплага каміна.
У паху кветак палявых
Жылі на сценах
Фарбай свежай
Маламажэйкаўскай царквы
Байніцы грозныя
І вежы.
Краін на свеце, астравоў
Спазнае родная паходня.
А за акном гасцінец вёў
На Ваўкавыск
І на Гародню,
І на Навагрудак стары

Пад векапомныя аблокі.
Мой край,
Для князя падбяры
Далёкі шлях
І лёс высокі.

**Праз гады**

Ішлі гады.
Князь малады,
Ва ўсім няўрымслівы Францішак,
Меў пры Суvoраве тады
Паручнік храбрасці залішак.
У італьянскіх гордых Альп
Заўсёды нораў быў суровы:
Гучаў для князя сумны альт,
Было вяртанне ў сан дваровы.
Дзівак,
Свой гарадзенскі сон
Лічыў за яву,
Думкай правай:
Пры Аляксандры Першым ён
Жадаў ліцвінскае дзяржавы.
Пад царскім вусцішным крылом
З'яднаць Варшаву, Полацк, Вільню,
У Еўропе быць,
Але з царом,
Прыгожай,
Правільнай
І пільнай.
Упершыню,
Апошні раз
Пад грукат
Нёманскай ільдзіны
З табою я,

Шаноўны князь,
Бо ты не выракся Радзімы.

***

І на Парыж, Санкт-Пецярбург,
На свет вяльможны і гарэзны
Не прамяняў у пойме бур
Касцёла ты Святой Тэрэзы.
Усе шляхі цябе вялі
Калісьці толькі пад Гародню.
Калі крычу,
Маўчу калі,
Дзялю з табой узгорак родны.
Не дачакаў ні дуб, ні вяз,
Пад жытам колішнія пусткі.
Казалі мне — пыхлівы князь,
А ён тутэйшы,
Беларускі.
З-пад ліштваў стомленых акон
Глядзела шчучынскае лета
З якіх краёў,
З якіх старон
Прыедзе княжая карэта?
Звінела, клікала, цвіло...
Удзячны мы за дзень далёкі.
І жырандоляў хай святло
Плыве за божыя аблокі.

***

Не памыляўся той,
Хто не любіў,
Не ведаў жалю.
І Міхал Агінскі
Боль
Расстання выплакаў раялю.
Іх пуцяводныя шляхі
Вялі далей,
Далей адзіна
Праз туманы, праз лес густы
Бліжэй да княства,
Да Радзімы.
Ізноў палацавы матыў
Шляхамі праведнымі пройдзе,
Дзе паланэза боль застыў
На выхадзе
І на ўваходзе.
Зламана колькі вострых стрэл.
Быў горшым, можа, ці найлепшым,
План аднаўлення ВКЛ
Харомы ж царскія не цешыў.
Пара расстання, доўгіх зім
У краі стала ля крыніцы,
Калі не ведалі князі,
Якому Богу памаліцца.

**Марыя**

Пасля дарог князь палюбіў
Маёнтак шчучынскі Дэль Кампа.
Усходзіць сонца,
І дубы,
Нібы запаленыя лямпы,
Там, над вадою,
У яго,

Каля Гародні, у Чарлёнах.
Душа прасіла аднаго —
Красы ад Ішчална да Нёмна.
Святла турэйскіх берагоў
І таямніц азёраў гразкіх.
І раптам...
Сініх васількоў
Вянок
На поручні каляскі.
Загадкі згадкамі сышлі б,
Каб на леташняе свята
З-за буйналістых статных ліп
Не бляск азартных вачанятаў.
Уздоўж ракі, званоў, сяла,
Ледзь сонца веснічкі пракрые,
Куды ты сэрца павяла,
Марыйка,
Юная Марыя?

***

У час вясновы
Дзень святы
На кладках моста-перашыйка
Нам напаткалася тады
Падлеткам мілая Марыйка.
Каса чарнявая
І стан
Празрыста плыў у веснім шуме.
Зачырванеўся князь
І сам
На бераг зводзіў прыгажуню.
Затым расілася трава,
Плыў май у наш юначы вечар.
І князь Францішак сумаваў
Са мной,

Са скрыпкаю
Аб нечым.
Аж разгадаўся светлы сум,
Калі азвалася буслянка,
Калі чарнявую касу
Расчэсваў князь
Дарожным ранкам.
І не хапала ночы-дня,
Каб зноў на ростанях спаткацца.
Чакала юная княжна
Карэты стук,
Зварух дзіцяці.

***

Яшчэ нязвыклы царскі сан,
Жандарскія навокал крокі.
Але праездам Аляксандр
У паслухмяную Еўропу.
На сцежках Чорнае Русі,
Уздоўж Тур'і трывожна штосьці.
Баяры спяць.
А галасы
Гаспадара чуваць
І госця.
Кружыў, маўчаў прад ночай грак
І пах дурманіў верасковы.
Тэрасны сад,
Пейзажны парк
Адзін мог слухаць
Іх размову.
Сядзіба спіць.
Венгерскі бэз
Сваю радзіму сніць старанна.
Экзоты велічныя спрэс
Не зварухнуцца аж да рання.

Што прынясе далёкі друг,
Якія вехі прыадкрые?
І не чувацца верных слуг,
І не заплюшчыць воч Марыя.

**Назаўтра**

Назаўтра, ледзь зара ўзышла,
Яго далёка жнівень выслаў.
Ліцвіна, вернага пасла
Чакала Царства па-над Віслай.
Чакала князя шмат дарог
За прынямонскай сіняй цішай,
Каб ён забыць Радзіму змог,
Служыў чужой,
Далёкай,
Іншай.
Чужынны скарб,
Варшаўскі баль
Душу ніколечкі не грэе.
Найбагацейшы князь амаль
Ад Нёмна
І да Пірынеяў.
Чарговы дзень памалу гас
Пад вербалозам вечна ніцым.
Ізноў вяртаўся дзіўны князь
Сваёй Айчыне пакланіцца,
Дзе святкаваў і зрок, і слых,
Душа жадала асалоды.
Не ведаў толькі
Ў светлы міг,
Як тут спыніцца назаўсёды.

***

Ужо вячэрняя зара...
Маршалак ён губернскі,
Нават
Пасланнік рускага цара
Па скарб Еўропы
І па славу.
У Царстве Польскім князь-ліцвін —
Было ж калісьці і такое —
Захоўваў скарб год не адзін
Пад царскай прагнаю рукою.
Вайна.
Паўстанне.
А душы
Штораз вясной вяртала птаства,
Як час навокал ні глушыў,
Айчынны звон
І покліч княства.
Тады здавалася яму —
Дарма дажыў да годнай даты.
Глядзела ў твар
Ці не таму
Святая Ганна сумна надта.
Прыезд адкладваў надалей
У край заходні,
Край паўночны.
Нява халодная,
Але
Радзімы вобраз...
Словы...
Вочы...

***

Сама, сама, усё сама.
Марыя, дбайная Марыя
Пакуль адна, пакуль зіма,
Дзяцей накорміць і накрые.

— Сустрэць бы раніцай яго
Па-над Тур'ёй, каля палаца.
Яго ж хапае аднаго
На паў-Еўропы завіхацца.
Яму патрэбныя спаўна
Былы Статут, былыя межы,
Былая дзіўная вясна
На Прынямонні, Белавежы.
Здаецца, мройны той палац.
Ад весніх дзён і да Калядаў
Не нам з табою будаваць,
Мой дарагі,
Мой ненаглядны.
Не спяць падзячныя званы
За паркам, возерам, на ўзгорку.
Здаецца, думаюць яны
Пра князя — светла,
Долю — горка.

**Вяртанне**

А ён не думаў
І не мог:
У час мядовы, час пахучы
Вяртаўся князь з усіх дарог
У свой апошні ціхі Шчучын.
Ад хваль Нявы
Праз мост і яр,
Што ўздоўж Тур'і,
Плыў поўдзень кволы.
На свой узгорак,
Свой алтар
Пад звоны сумныя
Касцёла.
Стагоддзі праўду ператруць,
А думка князева да месца:

На знатны герб,
Пад слаўны "Друцк"
Палац-хароміну завесці.
Таму, амытыя вадой,
У непагодзіцу прымглёна
На згустках памяці жывой
Пасталі белыя калоны.
Стаіць ягоная пара —
Паплечнік думкаю ці хтосьці,
Бо пры жывых гаспадарах
З табою тут
Мы толькі госці.

***

Як не зляцеў той хорам ніц,
Што на версальскі падабенствам,
Як ратаваў ад навальніц
Яго аднойчы Дзень пісьменства;
Як прадаўжаўся свецкі баль,
Гасцям дзівіліся калоны,
Як быў шчаслівы я амаль,
Раскажа летапіс мудроны.
Яшчэ пра герб вядомы "Друцк" —
Ад слоў высокіх незалежна
Раскажуць дзеці і спяюць,
І намалююць
З набярэжнай
Радзіму светлую сваю
Ад Полацка да Навагрудка.
Там я наводшыбе стаю
І князь пад яблынькаю пругкай —
Ад Юндзіла спрадвечны дар,
Чырвоны і салодка-кіслы...
Правей,
Над сходкамі,
Ліхтар
Ужо
Запальвае
Станіслаў.

# Змест